Przesyłka pocztowa opłacona ryczałtem
ГОД ВЫДАНЬНЯ ПЕРШЫ
АСОБНЫ НУМАР 30 ГРОШ.






| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: ВІЛЬНЯ, Гэтманская вул., № 4 «МАЛАНКА» | № 16 20 ЛІСТАПАДА 1926 г. | ПАДПІСНАЯ ЦАНА: на 1 год 8 злот. „ паўгоду 4 „ „ тры мес. 2 „ „ адзін м. 1 „ За граніцу: на год — 2 даляры, на паўгоду—1 д. на 3 мес.—50 цэнт. |
|---|---|---|



# Веець вецер, веець буйны, аж кудлы трасуцца...



**Беларускі работнік да селяніна:** — Браце, селянін, дай руку ў знак еднасьці! Ня бойся, што тыя вось там аж за галовы хватаюцца.




# На сучасныя тэмы.

Напасьцяй, лаянкай напрасна
Грудзей ня варта мазаліць!
Не пагасіць вам праўды яснай:
Жыў беларус — і будзе жыць!

*Янка Купала.*

Скажы мне, дзядзька, ўжо-ж ня дарам
Крычалі шумна з гвалтам, з жарам
У Несьвіжы паны.

Аб тым, як даць сялянам дулю,
Як трэба Польшчы круля, круля
Спрачаліся яны.

Два дні цягнуліся „дэбаты"
І, ад'яжджаючы да хаты,
Паны рашылі так:

Змагацца з новаю бядою,
З сялянскай нашай „Грамадою",
Што трэба тут — кулак!

І вось пашлі пісаць пісакі,
Завылі ў голас, як сабакі:
А — цю, цю-га, кусі!..

Пан Obst пісаў п'яныя зьвягі
І, не шкадуючы бумагі,
Крычаў; *даві, дусі*...

Пан Cat патраціў у „Слове" глузды,
Пачаў пісаць такія „брузды" —
Што моташна чытаць.

Пан Bor у „Віленскім Кур'еры"
На „Грамаду" сярдзіт бяз меры —
У гразь пачаў таптаць.

І для брахні вяліка поле
Знайшлі паны і ну у волю —
Кусай, брат, хто сабе!

На зьвягі доўга мы маўчалі,
Паном мы „здачы" не давалі
Хай зьвягаюць сабе!

Нішто цяпер нас не застраша,
Ні ваш кулак, ні зьвяга ваша, —
Крычы, хоць трэсьні, пан!

Ужо даўно вас знаюць людзі,
Пісаньне ваша ўсяк асудзе, —
Што ўсё хлусьня, абман!..

**Янка Грамабой**



Галактіон Чіпка.

# Плювачка.

Не такая яна ўжо простая рэч—плювачка, каб пра яе і пісаць ня можна было. Падумае нехта: — яна толькі на тое, каб у яе плюнуць, як чалавеку ў роце горка стане, або раззлуецца чаго. А я кажу, што не! Ня першаму мне даводзіцца пісаць пра плювачку і веру, што не апошняму.

Што ня першаму, то на гэта доказ — гісторыя нашага пасла Пятрышына, які ў Вене, у парку ганучы сушыў, а як у рэстаране кэльнэр падстаўляў яму плювачку, то азьвярэўся на яго:

— Вазьмеце сабе гэту міску, бо вось вам у яе плюну!

А што не апошняму прыдзецца мне пісаць пра плювачку, то на гэта доказ — нашы гмінныя войты, якія, трэба праўду сказаць, у вельмі малой колькасьці маюць алей у галаве.

Але чаго я прычапіўся да войтаў і пры чым тут плювачка?!

Паслухайце:

Ёсьць у нашэй гміне войт, які перш быў дворскім фурманом (*форналем*) і як калісь слухаў пана „дзедзіча“, гэтак цяпер слухае пана паліцыянта, а пра старасту і гаварыць няма чаго! Ці якое патрыятычнае сьвята, ці якое зьбіраньне дэкларацыяў, або якая стойка — усюдых быў ён паміж войтамі першы, усё даставаў пахвалу і быў стаўлены за прыклад.

А ўсё-ж такі раз не дагадзіў для ўлады і цяпер ходзіць сумны ды заклапочаны, як кнурок па кірмашы.

Як-жа гэта! пры пісару ды пры радным сказаў да яго пан камэндант, як са стрэльбы пальнуў:

— Wy, panie wojcie, jesteście skończony osioł.

А ўсе праз тую плювачку, бадай яна прапала.

Прыходзіць неяк пан камэндант да гміннай канцэлярыі і бачыць: войт і пісар плююць сабе на падлогу, нават не расьціраючы.

— Чаму вы на падлогу плюеце? — пытае іх.

— А дзе-ж прошу пана?.. Ў кулак, ці на сьценку?

— Вы з мяне вар'ята ня робце, бо я w urzędowaniu — зароў камэндант. Ня ведаеце, што быў наказ са староства, каб у кожнай канцэлярыі была плювачка.

Войт зламыўся, як ножык. —Ня чуў, прашу ласкі пана, прысягаю—ня чуў. А што яно такое плювачка?

— А то з вас хлоп! Плювачка — то такая пасудзінка з лейкаю зьверху і з накрыўкай. Павінна тут быць, каб ніхто на падлогу не пляваў. Зараз жа едзьце ў места і купеце.

Камэндант пайшоў, а войт з пісарам доўга радзілі над гэнай няшчаснай плювачкай.

А дзеля таго, што на другі дзень быў кірмаш у месьце, то і войт выбраўся (як заўсёды — на чужой фурманцы), каб дагадзіць паном і іх наказам.

Праз увесь час дарогі ламаў сабе галаву, як гэта выглядае тая плювачка, але нічога ня выдумаў.

— Пайду, думае, у краму дык там ужо падшукаю такую, каб і лейка была і накрыўка зьверху.

Зараз, як толькі прыехаў, пайшоў у краму і ўсё-ж такі знайшоў. Зусім гэтакая, як камэндант аб'ясьняў: і лейка ёсьць добрая і накрыўка ніщто сабе, толькі што дорага.

Але што значыць дорага, як такі наказ самога пана старасты ёсьць.

Прывёз войт вось гэту „плювачку“ дамоў дый зараз паставіў у гміннай канцэлярыі.

— Зноў пахвала будзе—думаў сабе. Каб Бог сёньня хоць камэнданта прыслаў.

Бог выслухаў яго просьбу і пад вечар зьявіўся ў канцэлярыі камэндант.

Войт яму зараз на пачатак:

— Ну, прашу пана, ужо ёсьць тая плювачка. Цяпер мы ўсе толькі да яе плюем.

Камэндант зірнуў у кут... Каля сьцяны стаяў прытуліўшыся да лаўкі вялікі паліваны... чайнік.

Вось тагды вырвалася з вуснаў пана камэнданта тое паскуднае слова, ад якога войт аж да стала пахіліўся.

А калі камэндант вышаў з канцэлярыі, войт з пісарам доўга сядзелі як замураваныя, а пасьля войт сказаў:

— Чорт бы іх пабраў з іх плювачкамі!

І абодва з пісарам плюнулі на падлогу, нават не расьціраючы.

*З украінскага пераклаў* **Я. М.**



**Пасол Морачэўскі**: (быўшы лідэр пэпээсаў).

Адрокся сваей партыі, адрокся таварышоў, адракуся каго хочаце, але міністэрскага партфэля я ніколі не адракуся.

*Увага рэдакцыі*: Бо літоўскі зубр (монархіст Мэйштовіч) цягнець яго на сваім повадзе.

**Адзін у плот, другі ў гарод.**

У часе паліцэйскай аблавы на вёску Снапкі ўрываецца ў хату селяніна паліцыянт з крыкам:

— *Бронь, хаме, маш?*

Селянін паказвае на бароны:

— А вось: маю дзьве.

—Орэнж, дурню, маш?..

— А як-жа маю: вось саха, а вось барана.

**Баба — ваячка.**

— Што ты думаеш аб агульным абязброеньні (разаружэньні)?

— Я думаю, што мая жонка на гэта ня згодзіцца.

## „Страва“ для віленскіх „патрыятычных“ газэтаў.




**Праходжы з провінцыі**: Што гэта за смурод такі і чаго вось гэты абоз сабраўся тут сярод белага дня?

**Віленскі жыхар**: А, гэта нехапіла ў рэдакцыях чарніла, дык прывязьлі новы „матар'ял“, каб было чым запаўняць шпальты аб беларускай „Грамадзе“.

### ПЭЎНАЕ ЛЯКАРСТВА.

Двое падарожных пояць коні.

*1-шы падарожны.* Ліха яго ведае, чаму гэта конь ня п'ець?

*2-гі падарожны.* А ты папрасіў старасты, каб войтам яго назначыў, дык адразу разап'ецца.

### Гуляй, душа!

*Пісар*: Тут сяляне вельмі бедныя; наракаюць, што бяз грошай жыць трудна.

*Войт:* Брахня! Вось я трэці дзень аб'яжджаю, валасьць, а як заеду дзе да грамадзкага солтыса дык „гуляй душа!“ як у рэстарацыі, і грошай плаціць ня трэба.

**Асот.**

### Дагаварыліся.

Паліцыянт, пішучы пратакол пытаецца ў селяніна:

*Як пана назвіско?*

Селянін, не дачуўшы:

— Здалёк прыйшоў з няблізка.

— А *гдзе пан мешка?*

— Мяшка?! не ня маю, — ня ўзяў з сабой.

## Стараецца, аж скуры вылазіць.



**Пасьліха да мужа:**

— А, Божа! Чаго гэта ты так гнешся?

— Не мяшай мне, Марылька,— гэта я вучуся, як трэба будзе ў Сойме лажыцца, садзіцца, гнуцца, ўставаць...

## Вох, гарэліца мая.

Вох, гарэліца мая,
Што ты вычаўпляеш,
Ты над намі, мужыкамі,
Літасьці ня маеш.

У Зыдора, серадой,
Талаку спраўлялі.
Напіліся ой-ёй-ёй!
Моцна загулялі.

Янка Лысы праз парог
Ракам перабраўся —
Праз яго-то, далібог,
Ўвесь садом падняўся.

Цімох кажа, што ён так,
Дапаўзе да хаты,
А Яўхім пярэчыць — не:
Брэшаш, трыбухач ты!

Той за слова—трыбухач —
Бац Яўхіму ў зубы;
Падустала „талака“
Ды давай за чубы.

Вох, гарэліца мая,
Што ты вычаўпляеш;
Ты над намі, мужыкамі,
Літасьці ня маеш.

Ў дзядзькі Ціта, дзе-ня-дзе
(Ці дасьцё вы веры)
Засталося ў барадзе
Валасін з чатэры.

А Зыдору (страх і чуць)
Ўжо тут не да сьмеху,
Па твары, бы хто-небудзь,
З драпаком праехаў.

Казюку нечы кулак
Калі ўгрэў па носе,
Стаў пеяці небарак:
Досі, браткі, досі!

Пра лятарні ля вачу
Й лік, браткі, згубіўся —
Я й цяпер яшчэ нашу,
Хоць там і ня біўся.

Вох, гарэліца мая,
Што ты вычаўпляеш —
Ты над намі, мужыкамі,
Літасьці ня маеш.

**Міхась Васілёк.**

### ?

— А знаеш, Сьцяпане, дворны бык мусіць у „шпікох“ служыць...

— Чаму?

— Бо, як мая Кацярына праходзіла праз поле ў чырвонай хустцы, дык той бык за ёй гнаўся, — ледзь уцякла. **Я. М.**

# Народны гумар.

### З ГУТАРАК ТУТЭЙШЫХ «ПОЛЯКУФ».

— Яне, а кеды вы бэндзеце млуціць свое жыто і вовес?
— Жыто мы бэндземы млуціць по *пшодку*, а вовес по *посьлядку*.

### ЖАЛАСЬЛІВАЯ БАБА.

— Ой, кумок, каб ты чуў, як сёньня ксёндз у касьцёле казаньне казаў, дык я ўвесь час плакала...
— А што-ж ён казаў?
— А хто-ж яго ведае. Нешта гэтак жаласьліва казаў: то чырванеў, то бялеў і рукамі трос, дык я плакала і плакала. *Д.*

### З НЯДАЎНАЙ МІНУЎШЧЫНЫ.

Праз вёску да двара вязьлі жнеярку і затрымаліся, каб даць адпачыць коням. Каля яе назьбіралася шмат цікавых і пачалі аглядаць. Адзін толькі стары Сымон стаіць на баку і ня дзівіцца.
— Ну што, добрая машына: за сто баб адна жнець!?—сьмяецца з яго аканом.
— Э, ўсё гэта глупства, у ёй самай галоўнай рэчы няма, — іранічна адказвае Сымон.
— Якой?
— „Заду“ няма..
— Гм... ?.. ?.. ?...
— Гэта-ж я памятаю, як за панщчынай баба дрэнна жала, дык было па чым біць, а што вы зробіце гэтай машыне, як яна кепска жаць будзе?

### У ВАГОНЕ.

Мужык і пан ехалі ў адным вагоне і, калі праяжджалі недалёка ад князёўскага палацу, пан з захопленьнем сказаў:
— О, як тут ріękпо!..
Якое тут у чорта пекла, вунь дзе пекла! — адказаў мужык, паказваючы рукой на суседнюю вёску. *Д.*

### НЯВЕДАМА.

— Як вы думаеце, ці ў гэтым годзе будзе цяжкая зіма?
— Няведама: ўсё залежыць ад падаткаў.

# У недалёкай прышласьці.



**Заграгічны дыплёмат да „возьнага“** (швайцара):
— Што гэта ў вас тут за набажэнства?
— Гэта адчыненьне новай сэсіі Сойму.

## Проект „Маланкі“



Каб падлабуніцца паном монархістам услужлівая „Маланка“ падае проект каралеўскага гэрбу для будучага караля з-пад Нясьвіжа.

Ганорар за конкурс ахвяруем „доктару“ на падтрыманьне яго „патрыятычнай“ дзейнасьці.

**Крапіва.**

## Плеткары.

Знае ён усё на сьвеце,
Вестак больш, як у газэце, —
Чуў-ня чуў, а навіну
Скажам вам ды не адну;
Што і чуў, дык пераверне
І пашла пісаць губэрня,
Бо даўгі яго язык
К супачынку ня прывык:
„Вой, сястрыцы! Чулі дзіва?
Кажуць, сёньня нарадзіла
Жонка Сьцёпкі Карася,
Ня дзіцё, а парася“.
„А я чула ад Аўдолі,
Што паны дзесь раскалолі
Ўсю царкву напапалам —
Частка тут, а частка там“.
„Нешта й я чуў ды забыўся“...
Я чуў — Рыкаў з Троцкім біўся,
А Сталін іх мірыў —
Гэта сват мне гаварыў.
На Нямеччыну-ж, казалі,
Рэпарацыі напалі —
Многа зьнішчылі дабра....
Гэта, кажуць, машкара
Так траву, жывёлу, збожжа,
Лес паела дзе-ня-дзе й
Пераходзіць на людзей“.
Вы, зязюлькі, мае цёткі!
Што за смак вам плесьці плёткі?
І мазоліць языкі
Вам, саколікі дзядзькі?
Час і сілу дарма траціць?
Плеткаром-жа мо' ня плацяць?
Толькі й платы бедаку,
Што мазоль на языку.

# Прыгоды Мацеевай душы з-пад Слоніма.

(*Байка*)

Доўга хадзіла непакорная душа Мацея з-пад Слоніма і нігдзе на зямлі не магла знайсьці прыпынку.

І заплакала душа. Шкода ёй стала, што Мацей вёў грэшнае жыцьцё, што ня ўмеў дзе трэба пакланіцца, дзе трэба пакарыцца.

Плача душа і сумна думае, седзячы на вялікім камені пры дарозе.

— Ну, куды я падзенуся, — загаласіла душа. Набадзялася, намоклася пад дажджом, а з холаду зуб на зуб не патрапіць. Зімачка ідзе. Мусіць згіну я пад плотам на сувеях і маразох.

— Ох, як цяжанька пакутаваць за Мацеевы грахі!..

Ажно глядзь: стаіць каля яе маладзенькі чорт, зубы выскаляе і хвастом махае.

— Доўга я цябе шукаў, Мацеева душа, — кажа чорт; хадзі са мной, ды пасьпяшайся, каб да поўначы зайсьці.

— Адчапіся ад мяне, нячыстая сіла! Не спакушай душу нявінную...

— Хадзі, хадзі! — не спрачайся: табе ў нас будзе ляпей, як вось тут на зямлі.

— А, і праўда, — падумала душа, — няма горшага пекла, як тут на Беларусі.

— Пайду!

Устала і, нізка схіліўшы галаву, пабрыла за чортам.

Была поўнач, як чорт пастукаў у жалезную браму. Зазьвінелі ключы, скрыганула жалеза. Падняўся магутны віхор, — сьмярдзюча дым уеўся ў вочы і, чуе душа, як ляціць усё ўніз, уніз у нейкую страшэнную пякельную нетру.

Ледзь-ледзь ачуняла душа. Сядзіць, дрыжыць, трасецца са страху.

Падходзіць да яе чорт, — відаць старшы нейкі, бо бляха на грудзёх прычэплена, а на блясе надпіс: „*солтыс пякельны*“.

— Хадзі, — кажа, — цябе войт наш даўно жджэць.

Пайшлі да войта. Будынак гмінны быў тут-жа непадалёчку, увесь чысьценькі, беленькі і стаpанна падмецены, — відаць чыстату тут любілі больш, як на зямле.

За вялікім і закіданым кніжкамі сталом сядзеў пузаты чорт — войт, а каля яго ўвіхаўся маладзенькі, спрытненькі ў акулярах і з пяром за вухам чарток — пісар.

— Хай будзе.. — пачала, але ўстрымалася душа, бо прыпомніла, што пляце недарэчнасьць.

— Садзіся, — ветліва адказаў войт.

Патупала, патупала з нагі на нагу душа, але сесьці не пасьмела.

— Садзіся! — паўтарыў войт, гэта-ж табе не Варшаўскі Сойм, — тут стаяць ня трэба.

— Кажы праўду, бо за няпраўду два дні арышту дастанеш...

— Толькі два дні! — зьдзівілая душа...

— Скуль родам?

— З-пад Слоніма.

— Чым твой Мацей займаўся?

— Бедаком — бабылём быў.

— Ці грашыў шмат?

— Вядома, хто-ж з нас нягрэшан.

— Ці гарэлку піў?

— Прызнацца, — меў слабасьць..

— Ну, гэта добра! і панашаму кодэксу прызнаецца, як „*околічносьць лагодзонца*“.

І пачаў распытвацца чорт аб усім: як жыў, што рабіў, як памёр Мацей? а душачка, жаласна хліпаючы, расказала ўсё ад малога да вялікага.

Слухаў, слухаў чорт, дый прызадумаўся:

— Гм, — кажа ён, хоць і грашыў твой Мацей, але грахоў вялікіх ня было, — няма за што і ў пекла саджаць.

— Прызнайся, душа, — угаварвае чорт, мо' ня ўсё сказала, мо' ўтаіла што?

Пачала душа бажыцца, клясьціся, але чорт ёй не паверыў, махнуў рукой, дый кажа:

— Годзі малоць табе языком! усё роўна не паверу. Пабудзь тут крыху ў нас, пакуль я навяду ў дэфэнзыве спраўкі.

Пачуўшы гэта, затраслася Мацеева душа, бы тая асіна і са страху амаль што не самлела.

— Ну, цяпер прапала мая душачка! — падумала яна, але пагадзілася з лёсам і засталася чакаць у пекле.

Праходзіць дзень, праходзіць другі, а Мацеева душа сядзіць у пекле ды „чысьцец“ сьцеражэць. Глядзіць ды любуецца праз шчэлачку ў браме, як паны, айцы духоўныя, судзьдзі, гэнэралы, а ўсё лысыя, ды тоўстапузыя ў смале аж па вушы смажацца.

— Больш ім, больш ім! — крычыць душа да чорта, які падкідваў у кацёл смалу.

А вечарам, калі пашла душа на спачынак, пачала яна ўспамінаць сваё жыцьцё, дый разважаць:

— Што беднаму пекла, калі ён на зямлі пакутвае горай, як тут у пекле! Тут няма а ні паліцыі, а ні асаднікаў, няма ніякіх соймікаў, страховак, падаткаў; сэквэстратар сюды ніколі не загляне і свабода куды большая, як на зямле: гавары, пей што хочаш, а там... там нават ценю свайго бойся: штодзень, штогадзіну спадзявайся, што паліцыянта, або сышчыка ліха прынясе, а тут мусіць у іх няма дэфэнзывы? Далей рассуджала Мацеева душа.

Стук... стук... стук... — нехта пастукаў і ўвайшоў за дзьверы.

Глянула душа, ажно гэта асаднік вайсковы, што каля Чамяроў жыў дый памёр ад гарэлкі, а тут ён, у пекле, у дэфэнзыве служыць.

Расстагнаўся, разбедаваўся ён, дый пачаў пытацца ў Мацеевай душы, што і як, ды ўсё запісваў алавічком на паперы.

Ня ведала душачка, з кім мела справу, ды расказала ўсё — нічога не ўтаіла, — ведама-ж шчырая — беларуская была.

А асадніку толькі гэтага і трэба.

Назаўтрае клічуць Мацееву душу да самога Люцыпара на суд.

Сядзіць на высокім троне Люцыпар і „Dziennik Wileński“ чытае, а каля яго, рассыпаючыся дробным макам, скача наш знаёмы асаднік.

— Чытай! — закамандваў Люцыпар.

Узяў асаднік вялізарную чорную кніжку пратаколаў і *дохо-*

## Бедната і мода



**Мястовая паненка ўбачыўшы жабракоў:**

— Ах, Божа! Якая брыдота, — гэта-ж яны зусім голыя...

**Жабракі:** — Цьфу, якая цяпер агідная мода!

*дзэнь тайных* і чытае: паноў не баяўся, з начальствам задзіраўся, на „Лукішках“ сядзеў, айцоў духоўных ня слухаў, і гэтак далей і гэтак далей, а як пачаў чытаць пра беларускасьць, дык аж пена пайшла ў асадніка, там такое стаіць, што аж падумаць страшна; што праўда — то праўда, але набрэхана дык бяз меры, — ведама-ж асаднік — лаўкач на гэта!

Слухаў, слухаў Люцыпар, дый плячыма сьціскае:

— Гэтага яшчэ мне мала, скажы мне, пане „*конфідэнце*“, — просіць Люцыпар, а ў „Грамадзе“ ён ці быў запісаны?

— А як-жа, быў, быў! пане Люцыпар, перад сьмерцяй сваей узяў дый запісаўся.

— Праўда гэта, ці не? — зароў са злосьці Люцыпар, зварочваючыся да Мацеевай душы.

— Але, праўда, -- адказала спакойна душачка.

— Ну, цяпер я ня ведаю, што мне з табой рабіць?

— У пекла, ў смалу, за язык павесіць, — падшэптвае асаднік.

— Маўчы, брыда! ужо ты мне непатрэбны, але што з табой рабіць? — зьвярнуўся Люцыпар да Мацеевай душы.

— Смалу вазіць! — зноў шапнуў асаднік.

— Цыц! ані пісьні, бо ражном вось!...

Падыйшоў тут другі, нейкі важны чорт і пачаў радзіцца з Люцыпарам. Радзіў і тое і гэта, але Люцыпар усё не згаджаецца.

— Разумееш ты, — неяк з абідай ў галасе пачаў апавядаць Люцыпар: ёсьць у мяне ў Вільні родны брат — Еганам Обстам завуць яго, што „Dziennik Wileński“ рэдагуе, дык той там на зямле з „Грамадой“ як мага змагаецца, а я сюды ў пекла гэтай заразы ня ўпускаю, але ніяк мой брат гэту „Грамаду“ перамагчы ня можа, расьце яна сотнямі тысячаў, а як разрасьцецца, дык нават нас, чарцей, тут з пекла павыкідвае, а як-бы хацелася яшчэ гадкоў некалькі тут пакруляваць.

— Вось задаў сабе суму, -- пачаў усьцяшаць Люцыпара яго дарадчык: —ня будзе месца нам тут у пекле, ды на зямле знойдзецца.

— Добра табе казаць — знойдзецца, але дзе?...

Усюдых цяпер цароў, ды каралёў прэч гоняць, а што-ж мы там на зямле рабіць будзем? — безнадзейна спытаўся Люцыпар.

— Як што?! Ці-ж ня чулі, пане Люцыпар, што нядаўна ў

## Чыста, гладка...



**Злодзей у часе начной „работы“:**

— Што за ліха: чыста, гладка,— мусіць нядаўна сэквэстратар быў.

Нясьвіжы банкет монархістаў быў, што гаварылася і абсуждалася, каб у Варшаве караля пасадзіць, але толькі каго?..

— Вось бы добра каб вас, па не Люцыпар! — прашаптаў падліза — асаднік.

— Wiwat! Брава! — зарагатаў на ўсё пекла Люцыпар, але дзе-ж той Нясьвіж, у якой ён ляжыць староньцы?

Прынясьлі вялікую, як посьцілка „мапу“ (карту); пачалі ўсе чэрці і чарцяняты тыцкаць пальцамі, шукаючы таго Нясьвіжу.

— Вось, ён! Вось ён! Вось ён той Нясьвіж! — закрычала ад радасьці чарцянятка.

Падыйшоў сам Люцыпар, паглядзеў і злосна плюнуў у кут.

— Дык гэта-ж Нясьвіж у Заходняй Беларусі ляжыць?

— Але! — прашапталі дарадчыкі і асаднік разам.

— Там, дзе гэта „Грамада“ расьце і пашыраецца?

— Але!

— Прэч! прэч! прэч! прэч з маіх вочаў, прэч! — гнеўна закрычаў Люцыпар і пачаў разганяць усіх направа і налева бізуном.

Затраслася са страху душачка, і доўга ня думаючы, лахі пад пахі, ды ў ногі з пекла.

Цемната пякельная. Васеньні дождж ліець, як-бы хоча ўвесь сьвет затапіць. Халодна, галодна. Праснулася Мацеева душа і глядзь: аж камень вялікі ляжыць пры дарозе, а яна каля таго каменя на васеньняй сьцюжы крыху адпачыць лягла, дый заспалася.

— Ах, як добра, што гэта быў толькі сон! — прашаптала душачка і пацягнулася па дарозе, куды вочы глядзяць, хвалячы аднак у думцы пякельныя парадкі, бо там у дэфэнзыве касьцей не ламаюць і ў пяткі ня смаляць.

*Янка Новы з Балота.*

# Дзесяць Спадаровых запаведзяў.

**Ад рэдакцыі:** Нашы паважаныя падпісчыкі і надалей зварочваюцца да нас прадаўжаць наш „Слоўнік для чытачоў „Сялянскай Нівы“ і разьясьняць ім усялякія „беларуска - крэўскія тэрміны“, як: *прашэльн'к, школства, як-га, музыцкая* і іншыя словаерсы, спатыканыя на шпальтах „С. Н.“.

За нястачай месца, слоўніка пакуль што не зьмяшчаем, а даём проект „дзесяцёх Спадаровых запаведзяў“, якія нашаму супрацоўніку ўдалося сакрэтна сьпісаць з арыгіналу (бяз ніякіх зьменаў)

*„Дзесяць запаведзяў:“*

„Я ё Янка Спадар дохтар язычнасьці (хвілёлёгіі) Вялікі Рэформатар, што тваю просьцінскую мову скрывіў і зрабіў з ёй падымку на зьверх футуро-кубістычнай гамонкі або гукаўкі.

1) Ня будзеш прызнаваці някшай гамонкі апрача гукаўкі наўчонага Спадара.

2) Ня будзеш дарма выкідываці залатовак на ўсе выдрукі, што ня я начыркаў.

3) Не зубудзься помнець і май (ад слова маю) на ўвеце, што дзень сьвятні дадзены табе на чытарку „Сялянскай Нівы“.

4) Абшанывай духотнаю еміну, дастаную з Майго языкоўнага творства.

5) Не забівай часу чытаркай „Маланкі“, бо яна, як бац, грызе Маю гамонку.

6) Спробы „Маланкі“ даказаці, што „спадар“ ідзе ад слова „спадаці цемем“, — лічы за згвалтаваньне праўды гісторнай. Слова гэтая прызнавай за даўнешная „гаспадар“. Скаротнасьць паўстала дзякуючы лапэтыту молі, што ў „Аль Кітабе“ дзьве першыя літары аджорла.

7) Не крадуй чужаземных словаў і цярпесна чакай, покуль Я буду меці часу прыдумаці ляпшэйшыя гамонка-гукаўскія словы.

8) Не кажы ніколі хвальшоўна: „лік“, „чэсны“, „ніякі“, бо гэта не дае паймовага пайма і ё полёнізмы. На Маёй гамонцы трэ' казаці: „лічба“, „зацны“ і „жадны“.

9) Не пажадай накшых словарнікаў і грамматыкаў.

10) Ані Лёсіка, ані Тарашкевіча, ані Некрашэвіча, ні Астроўшчыка, ні Ластоўшчыка, ані іншых, што не Мае ё.

Любуй творства, нашых поэтых, пісальнікаў і іншых чыркуноў, але ня накш, як просьле Майго языкоўнага падмайстраваньня“.

Сьпісаў *Я. Загадка-Гладка.*

# Нашы здабыткі.



Зямля.




Воля.



Школа.




Грамадзкія павіннасьці.



Адміністрацыя.



Братэрства.



ТРЭБУЙЦЕ ТОЛЬКІ КАЛЯНДАРЫ БЕЛАРУСК. ВЫДАВЕЦК. ТАВАРЫСТВА.

Рэдактар-выдавец **М. Луцэвіч**. Друкарня Б. Клецкіна, Вільня.